# *Алесь Каско*

# СКРАЗНАЯ ЛІНІЯ

*вершы*



*Мінск*
*«Мастацкая літаратура»*
*1982*

* * *

Цяплынь,
і шчодрасць навальнічная,
і сухавей, іградабой
зялёным полем намагнічаны,
з'яднаны лініяй скразной.

Што прынясе скразная лінія
найперш?
Ды веру ў збажыну...
Мой край!
Ні бурамі, ні ліўнямі
цябе твой лёс не абмінуў.

Але ўзыходзіць зноў
азіміна,
зарой зялёнай устае.
І пачынаюся з Радзімы я,
каб стаць падобным да яе.

## *ПЕСНЯ НАРАДЖЭННЯ*

Звычайны дзень.
Такі і ўчора быў,
і заўтра будзе гэтакі ж,
як сёння.
Гайдаецца на хвалях веццям сонца,
і даспяваюць гронкі арабін.

Празрысты бляск асветленых акон,
асенні ветрык
ветлы, як «дзень добры»...
І ўсё-такі дзень гэты не падобны
для нас з табой
на многа іншых дзён.

Радней, чым сёння,
свет яшчэ не быў —
такі лагодны, прамяніста-светлы,
што часам здасца:
дар наш запаветны
прынеслі, бы анёлы, галубы.

Прымаю дар нябёсаў і зямлі,
бяру на рукі,
кланяюся нізка
ўсяму, што ёсць — ад дрэў да абеліскаў,
усім — жывым
і што да нас жылі.

Будзь блаславёны, кругабег жыцця,
не гасні, дзень, у долі і нядолі.
Любві і гневу,
радасці і болю
трымаю на руках пачатак і працяг.

* * *

Нам нельга не гарэць,
не плавіць
жыццёвай скрухі,
слоўнае руды:
штоміг маланкавая памяць
высвечвае трывожныя гады.

Няможна тлець —
нам пакаленні
на гэта не пакінулі хвілін.
Сагрэты іх агнём
карэнні,
нам — берагчы цяпло ля вершалін.

Світае дрэва зелянінай,
вяснуе мова
ластаўкай ля хат...

Быць палахлівым і лянівым
ганебна
у краі незабыўных страт.

А не гарэць —
утойваць здраду
мінуламу і заўтрашняму дню,
таму народу
і таму салдату,
што кланяюцца Вечнаму агню.

—

* * *



Палессе. Паплавы. Паводка.
Размыты сцежкі і сляды.
Няхай расплюхваецца лодкай
прастора весняе вады.
Далёка
неспакойны бераг,
яго і рэхам не дастаць.
Я тут як бог.
Я шчыра веру,
што здольны з чыстага ліста
пачаць жыццё сваё
і ваша:
паболей — спраў, паменей — страт...

Мне трэба час быў, каб узважыць
дзве ношы —
сумных дзён
і свят.
Каб потым уздыхнуць з палёгкай:
адно ёсць права —
жыць, тварыць,
бо там, на беразе далёкім,
чакаюць маці,
ты, сябры;
і там,
ля ніткі далягляду,
дзе зачакаліся гасцей,
ад аднаго твайго пагляду
вясло лістамі зацвіце.

* * *

Збуяла некаш.
З арабіны
спадаюць ягады ў расу.
Валюся ў травы з карабінам
і адчуваю зноў касу
ў руках,
ахоплены ўспамінам.

Здаецца, пахне свежай мятай,
над Ланню шчодры луг ажыў...
Мне дзень той
быў сапраўдным святам
на пераходным рубяжы
паміж падлеткам і салдатам.

...Крык жураўліны над балотам
змяніў сігнальную трубу,
каб не адстаў я ад пяхоты
і не забыўся
на касьбу
ў апошні дзень перад паходам.

* * *

Ты, старонка,— сама цішыня:
у снягах растварыліся гукі,
і смугой вечароваю
рукі
тваіх дрэў
абняла вышыня.

Не ў мальбе, не ў малітве яны
над прамёрзлаю рунню падняты.
Пазнаваць па іх будзе араты
надыход клапатлівай вясны.

І не ў грозьбе ды немай кляцьбе
твае рукі да неба прыкуты.
Ты прайшла
праз такія пакуты,
што нічым не спалохаць цябе.

Проста снег — ён да стрэх дастае,
проста навісь—вятрам не разгушкаць.
Па руках тваіх
людзі і птушкі
бачаць хаты і гнёзды свае.

* * *

Буду до ночной звезды
Лодку мастерить себе...
М. Рубцоў

Дома не быў даўно як!..
Вось разліе паводку
бурна вясна —
і зноў я
дома прычалю лодку.

Цішаю двор адтуліць,
і не знайдуся:
што мне

добрай сказаць матулі
пра неспакой і штормы?
Не перабольшу — згладжу,
проста зраблю:
майструю —
лодку сваю падладжу,
студню ўзнаўлю старую.

З высевам першых знічак
выйдзе матуля чэрпаць.
Возьме вядро, пакліча:
«Пойдзем, сынок, вячэраць».

Маці ўсю ноч не ляжа;
золкім, густым дасвеццем
лодку маю адвяжа,
пусціць адну па свеце...

* * *

Буслоў не ведаю бяздомных,
яны вяртаюцца дамоў,
да родных, да сваіх
гняздоўяў,
да хмельных траў і туманоў.

Як неад'емнае: над грушай
птах белы крылы распасцёр...
Яго святлом
                    світае ў душах
любві святое пачуццё.

З нас не адзін спазнае плату
за скарб,
                    які пад крыллем лёг.
Не аднаму яшчэ заплакаць,
упаўшы на чужы мурог.

А неба роднае падыме
ў каторы раз,
                    як тых буслоў,
што з вечнай вернасцю Радзіме
ляцяць да траў і тумано́ў.

## *РАБОЧЫ ПАЭТ*

Якая спешка! Перакачавалі
нядзелі ў будні, а турботы ў сон.
Ты стомлены. Такое адчуванне,
што ўсё замоўкла, анямела ўсё.

І што скрыгоча кран, не моўкне галас
вятроў, гудкоў і гаманы — адно

здагадваешся ты, нібыта зараз
глядзіш нямое, даўняе кіно.

З будоўлі — і цяпер не адлучыцца:
як ні змагліся думка і рука,
а досыць будзе першага радка,
каб зноў у крутаверць жыцця
ўключыцца.

—

* * *

Прагнаць тугу, і думаць аб былым,
і пазіраць, як паплавы дымяцца,
дзе дыбаюць, як белыя буслы,
касцы наўкруг — па рутвіцы ды мяце.

І слухаць, як да плыткіх берагоў
вада рачная лашчыцца бязважка,
і разумець, што ў сувязі гадоў
было ўсё значна, хораша і важна.

І ўсё прымаць: тугія чараты,
і плёскат рыб, і пыркі хваляў срэбных;
і адчуваць: калі з'явіўся **ты**,
дык, значыць, ты
зямлі сваёй патрэбны.

І не хацець ні славы, ні хвалы,
а ўсё не ведаць,
                    чым аддзячыць лёсу...
Пакуль касцы, як белыя буслы,
не травы ў лузе — лета твае косяць.

---

## *ЖАНЧЫНЫ НАДВЯЧОРКАМ*

Пра даўні час дзявочы,
пра неслухаў-сыноў —
пра ўсё,
          пра што захочаш,
пачуеш з іх размоў.

Вясковыя кабеты,
так звыклыя чакаць
паштовак,
             а газеты
ім некалі чытаць.

Ды ведаюць —
                  такое
бянтэжыла заўжды,—
што ў свеце неспакойна,
што блізка да бяды.

...За паштальёнам сочаць.
Маўчаць.
Гамоняць зноў:
ўсё менш — пра час дзявочы,
ўсё болей — пра сыноў.

## *МЯЖА*

(Трыпціх)

*Дзецям герояў Брэсцкай крэпасці*

*1*

Прыехаў — быццам спешыўся
і моўчкі шапку мнеш.
...Твая сцяжынка першая.
Ні перашкод, ні меж.

Хлапчук. Сачок. Ідылія.
Ты матылькоў лавіў.
Такія легкакрылыя
лятункі-сны любві!

Плыў матылёк над вежамі
за суткі да вайны,
і ты стаяў збянтэжаны,
туліўся да сцяны.

То быў як дотык вернасці...
А вецер нарастаў,
шумеў трывожна вербамі,
успеньваў хвалі траў.

Той востры час прамежкавы
запомніла душа:
паміж слязой і ўсмешкаю —
чырвоная мяжа.

І потым, калі крэслілі
маланкі твой прасцяг,
як матылёк, над крэпасцю
трымцеў і біўся сцяг.

2

Бацькі трывала,
назаўжды
з'ядналі мужнасці вытокі:
прастору — не акінуць вокам,
часцінку — у глытку вады.

Глыток вады...
А губы сцяты,
шапнуць нат не паспелі:
«Жыць...»
З непераходнае мяжы
на вас глядзяць бацькі-салдаты.

Ім бачыцца дасюль:
бяжыць
хлапчук у немым крыку:
«Та-а-та!..»

*3*

...І тыя ж кветкі.
Матылёк.
Натоўп — ракою.
«Адкуль?» — пытаешся.
«Здалёк»,—
махнуў рукою.

Здагадваешся:
з-за мяжы,
вунь хтось гукае...
З табой ідзе
хлапчук чужы.
Дапамагае.

Табой прывезены
вянок
нясе хлапчына
да ног салдата
і да ног
тваёй Айчыны.

## *КУРГАН*

Няма цвярдзей, мацней камення,
якое тут,
                але яно
забыла кожнага пайменна
каменнай памяццю даўно.

На ім ні прозвішчаў, ні лічбаў.
Хто генерал, хто радавы —
яно схавала іх аблічча,
яно ўраўняла іх правы.

Адно згадаецца бабулі
парэпанай, нібы зямля,
падлетак-сын. Ці муж.
                                Пакуль ён
без рэчмяшка і шыняля.

Салдат адрозніць немагчыма:
у іх адзін і час, і лёс...
Над імі верная Айчына
схіліла сівізну бяроз.

Над імі — непагадзь ці сонца —
заўжды зязюленька куе:
аб кожным плача паасобку
і кожнаму
                імя дае.

* * *

Ніколі сябрам не позна
пастукацца ў ціхі дом.
Увойдуць — яго напоўняць
і ветрам, і палыном.

Дарогай
            тады павее,
прасторай у твар дыхне.
«Збірайся, запалавееш»,—
не ў жарт папракнуць мяне.

Згаджуся: такія змены,
не ўбачыш іх
                    праз акно.
Пакіну ў шпалерах сцены
і кніжкі
            ўсе да адной.

З сябрамі — усё пароўну.
Не звонка ў кішэнях — што ж,
мы срэбраным злепкам поўні
аплацім і золь, і дождж.

Хай ныюць ад стомы ногі,
пружыніць да болю мозг.
Сябе запытаю строга:
а што для Радзімы змог?..

І ў стоены час расстання
з заўсёдным «пісаць-званіць»
адчую:
на сотні станцый
душа, быццам звон, звініць.

## *МАЛАДЫЯ Ў ДОМЕ ТВОРЧАСЦІ*

Злятаемся сюды,
як вераб'і пад вечар
злятаюцца ў сады,—
з сабою на сустрэчу.

Ці пад жанглёра слоў,
ці пад каго з вялікіх —
выходзь у круг сяброў
і голасна чырыкай.

Не ведаю, ці смеў
хто слухаць без давер'я...
Шануюць тут твой спеў,
хоць не шкадуюць пер'я.

Наказ — адзін для ўсіх,
для ціхіх і свавольных:
каб светла галасы
будзілі край прывольны.

Натхніць сябрына нас,
захмеліць пах яліны —
ляцім у добры час
на родныя галіны.

І скептык, хто з майстроў,
здзіўляецца хай потым:
адкуль у вераб'ёў
салаўіны посвіст?

* * *

Гуляй, казак, па волі,
пакуль трымае лёд.
Ты выпрасіў у долі
каня за трыццаць год.

Скупая ў нас эпоха,
малі ці не малі,
скупілі ў пана бога
ўсе ласкі за нулі.

Грашовы быт прыесца,
а дружба — назаўжды;
пакуль не прадаецца,
гані каня туды.

Нясі ў страмёнах вецер
на вернасць узамен.
На гэтым белым свеце
кароткі белы дзень.

У гэты час імклівы
не клянч і не кляні,
ты проста будзь шчаслівы
ў любві і дабрыні.

Мінай ліхвярства, скупасць
і ў тлум базарны дня
ўчаканьвай звонкі тупат
крылатага каня!

## *СТАРЫЯ КВАРТАЛЫ*

Царква. Жалезныя аковы.
Крыжы. Званоў глыбінны гуд.
Дыханне
Сярэдневякоўя
міжволі адчуваеш тут.

Лісцё барвовае
з каштанаў
зрываюць злосныя вятры.

І ў дымцы раніцы паўстане:
палае Бруна на кастры...

Пральецца сонца бляск над светам,
і вобраз бачыцца другі:
XX век; да зор
                    ракета
стартуе з восеньскай смугі.

## *РЫБАК*

«Рыбак» — нязлосны выпад слоўны:
ён рыбы не лавіў — сцярог.
Дзівак:
              са старасвецкім чоўнам
расстацца аніяк не мог.

І на разлад з імклівым часам
наездзкы катэрок бурчаў...
Ды шмат каго
                    і вельмі часта
няхітры човен выручаў.

Быў не «карытам»,
                         а карэтай
і рыбаловам, і касцам;

даводзілася звсдаць гэта
і неабачлівым плыўцам.

А гаспадар — ён за абразу
лічыў
і не прымаў дары.
Падзякаю было, каб разам
прысесці, моўчкі пакурыць.

Нягрэблівы, нібыта ўчора
і мне сказаў:
«Дай дакуру...»
Успомніў —
і здалася чоўнам
труна яго на хвалях рук.

## У КАНЦЫ СЕЗОНА

### 1

Спустошыла гасцініца душу,
па вуліцах запыленых кружу.
Спадае з яблынь ачмурэлы спас.
Спацелы кед паруе, нібы прас.
Пад'ёмны кран з натугаю скрыпіць.
Збіраюцца «Грузінскага» купіць.

Відна рака з зялёнаю вадой.
Застылі баржы з рознаю рудой.
Няма збавення ў цяню ні на грош,
дзе высахнуў пазаўчарашні дождж.
І школьніц смугла违ногіх на пяску
варочае спякота, як траску.

2

За поўдзень. Гарадок размяк.
Спакой — грымяць пантоплямі.
Падзьмула. Сцебануў скразняк.
У неба нервы лопнулі.

Шпурнула хмаркі паясок...
І шпокнулася бульбінкай
густая кропля на пясок,
другая — і забулькала.

Зрабіла з вуліцы раку
вірлівую, нястрымную.
Збівае лісце ў талаку,
змывае туш вітрынную...

Сцішэла. З дахаў пацякло.
Блішчыць вясёлка ў марыве.
І дзеці дыхаюць на шкло,
як рыбкі у акварыуме.

## *ПАВОДЛЕ ЭКАЛАГІЧНАЙ ДЫСКУСІІ*

Прырода ахвяруе
сабой
для чалавека,
ды ўлады не даруе,
глядзі — зачыніць века.

Яна і мы — адно,
не дадзена ўладарыць,
і мо ад нас даўно
патрэбны ёй ахвяры.

А саступіць каму ж?..
Пад гожым дубам
згодна
сядзіць вучоны муж,
і — думаюць абодва.

## *МАЛЕНСТВА*

Расінкаю для маці быў:
не раз на ўзмежку пакідала;
а потым, як снапы вязала,
вачэй не зводзіла, нібы

4 Зак. 2813

ў чымсь вінаватая была...
Не сталася са мной нічога,
і вырас я не з ласкі бога —
з яе няблізкага цяпла.

* * *

Узгорак,
дуброва,
паляна
раскажуць, як плытка і лёгка
паўз іх веславалі па Лані
і дзед мой, і бацька на лодках.

Пасля ў рукі вёслы і я ўзяў,
ад плёсу і траў захмялелы...
Даўно лодка вяленым язем
ляжыць ля ракі абмялелай.

Казаў дзед — дасціпны стары быў —
за юшкай парою вячэрняй:
«Было колісь гэтулькі рыбы,
бяры апалонік і чэрпай».

Пры бацьку яе стала меней,
пры мне — ані рыбы, ні рэчкі.

Былі ў нас у трох перамены
вытокаў, і вусцяў, і рэчышч.

А сын хоча
                    ўловам хваліцца,
і, часам тужыць аб улове,
і прагне красой наталіцца —
у рэчцы, у песенным слове...

## *АДЗІНСТВА*

Я часцінка зямлі,
і таму мне балюча,
калі нішчацца дрэвы,
высыхаюць крыніцы.

Гэта мой востры боль
крыкам жаласным кані
прылятае так часта
да сяліб
                    з сенажацей.

Мой дакорлівы позірк
вы сустрэнеце ў лесе
ў «вочках» белай бярозы:
апусціце сякеру!..

Асцярожна трымае
на далонях дзяўчынка
маё цёплае сэрца —
спелы яблык чырвоны.

## БУСЛІХА

Прытоіцца змрок і паціху
па ломкай страсе папаўзе.
І будзе ўсю ночку бусліха
стаяць на танюткай назе.

Мо трошкі пазней, не сягоння...
Ледзь скрыпнуць аголіны лат —
спахопіцца, мякка агорне
крылом маладых буслянят.

Суцешыць, спяе калыханку,
мінорна выводзячы «клек».
Яна не заплюшчыць да ранку
стамлёных бяссоннем павек.

Прачнуся. Зірну — і прыціхну...
Трымае гумно. Балазе
цалюткую ночку бусліха
на ім — на адненькай назе.

## *У ВЕСЦЫ*

Тры дні, тры ночы
мокне хвошч.
Дождж.

Тры дні, тры ночы
не вылазь:
гразь.

Тры дні, тры ночы
весялосць:
госць.

Тры дні, тры ночы
не пра нас
сказ.

Тры дні, тры ночы
дождж́ык тут —
цуд!

Тры дні, тры ночы —
і пачнеш
верш:

«Тры дні, тры ночы...»
Жыта ўсё ж!..
Мокне жыта!
Дождж.

## *КАМБАЙНЕР*

Звечарэла.
Дзень апошні
ўпаў у бункер збажыной.
Мора парыжэлай пожні
ахінута цішынёй.

Пальцы змораныя леглі
на запылены штурвал.
Пенны ад вятроў палетак
цэлы месяц штармаваў.

Узнімаліся саломы
залацістыя валы...
Пот змахнуў густы, салёны
рогам жорсткае палы.

Удыхнуў дым папяросы,
кінуў позірк на палі
і — сыходзіць...
Так матросы
пакідаюць караблі.

* * *

Кружыцца і галосіць,
падае
        чаіца шчырая
ў хвалі калосся,
нібы ў хвалі рачныя.

Плешчуцца светла воды,
лёгка гайдаюць лотаць...
Памяць прыроды
чайкай
        над полем
                лётае.

## ПРЫКМЕТА

Няўзнак наступім на мурашку,
яна бяссільна задрыжыць.
Нат за яе бывае страшна:
усё жывое прагне жыць.

Не па ўсявышняму загаду
мінаем драбязу якраз:
яна для нас нясе спагаду,
яна аберагае нас.

І спачувальнасць да прыроды —
пазнака мудрай дабраты
і чалавека, і народа
ў наш век няўстойлівы, круты.

## САНЕТ

Дружна прагнуць зярняты рук,
дакраніся — і звонка пырснуць.
Ды і ў хлеба ёсць горкі прысмак:
завяршыўся чарговы круг.

Недалёка да завірух:
поле зыркае, быццам прысак...
Шэпча вецер: «Цяпер, і прысна,
і заўжды — незваротны рух».

Пераходны і зорны час
дабрынёю вянчае вас;
вы свядомасць сваю, сумленне
жытнім нівам перадалі...

Гнецца колас цяжкі, насенны,
сніцца рунь і вясна зямлі.

* * *

Ажно захлынаецца дворык,
так звоняць, грымяць капяжы.
Сягоння такое надвор'е —
жывеш, а ўсё хочацца жыць.

## АБУДЖЭННЕ

Штодня
нябёсы ўсё глыбей
і ўсё званчэй начная ціша,
але ні слова не напішаш,
пакуль вясна не для цябе.

Пакуль не леглі на душы
яе цяпла,
дабра павевы —
ты і высокія напевы,
не блізкія, як спарышы.

Гняце няўпэўненасці лёд...
Ды кліча свет палёў крылатых,
дзе сейбіт кідае зярняты
з адвечнай думай пра ўмалот.

Яго надзеяй
наталі
душу ў халоднай паняверцы,
і слова выклюнецца з сэрца,
нібы з пупышкі — новы ліст.

* * *

Буйныя кроплі
скачуць,
скачуць
па тонкім голлейку лазы.
І дождж
і сонца —
гэта «плача
царэўна»
чыстымі слязьмі.

Ты ўся прамокла,
але рада;
мяне
кранаеш за руку,
нібы не верыш,
што мы — разам
між траў густых
і лазняку.

А дожджык падае бялёсы,
і я не ведаю,
чые
ў цябе на твары
ззяюць слёзы —
ці то царэўны,
ці твае.

## *РОДНАЕ*

*1*

Мне без радзімы,
як чайцы — без мора,
шэрай зязюлі —
без сіняга бору;
як травам — без ліўняў,
бярозам — без соку;
як ручаю —
без вусця й вытоку.

*2*

Жыццёвы пачатак:
хата,
прысады,

запознены статак;
матчына песня
на полі начуе...
Вочы заплюшчу —
і бачу, і чую...

## *ДАЛЁКА АД ДОМУ*

Трапяткія адплываюць цені,
адыходзяць з пералеску ў гай.
Журавам не спіцца:
                    зноў ляцець ім,
несці сонца ў мой палескі край.

Далягляд пранізваюць вачыма
ды імкнуцца сэрцамі ў працяг...
Трэба журавам
                    мая айчына,
трэба мне
                    іх жураўліны шлях.

## *РЭДКІЯ СУСТРЭЧЫ*

Сядзім за столікам, нібы ў купэ,
і ціха размаўляем, бы ў вагоне.
Нам скончыць і на сотым перагоне
пачатую гаворку не паспець.

Бялее месяц, чахне на вачах,
а мы згубілі адчуванне часу,
які, заняты вечна, так нячаста
сустрэчы дорыць нават па начах.

Як слаўна, што забылі на яго,
хоць і здаецца — мы кудысьці едзем,
хоць ведаем — няхай далёка недзе,
ды будзе ўсё ж апошні перагон.

Цяпер жа свята еднасці расце,
гаворым пра Палессе і Купалу,
пра тое, што нам сябра не ставала,
што трэба ўсё-ткі бачыцца часцей.

І верым: будзе ўсё, бы ў гэты раз...
Цячэ і не спыняецца гаворка,
і жонка сябра — добрай кантралёркай:
яна білетаў не пытае ў нас.

* * *

*Васілю Жуковічу*

Прыцярушыць першы снег
і асфальт, і дрэваў голле,
перайначыць белы свет,
ціхай радасцю агорне.

Белы горад паплыве
караблём у шлях далёкі...
Дзень — так ясна ў галаве,
дзень — на сэрцы лёгка-лёгка.

Адсваволіў ліставей,
улягліся ўсе трывогі.
Не, душы не ачарсцвець:
хараства на свеце многа.

Не, святло не дагарыць
і не раз душу абдыме,
покуль ёсць твае сябры,
покуль ёсць твая Радзіма.

* * *

Мяккай,
белай цішынёй
падаў снег,
валіў.
Быццам зноўку за сцяной
яблыні цвілі.

Моклі ў шчылінах фрамуг
іх пялёсткі.
Ты
спала,
разаслаўшы круг
валасоў густых.

Варажбітка-ночка
сны
клікала з дарог...
Толькі дзверы адчыні,
выйдзі за парог;

толькі ляжа
цёплы пух,
гэты пульхны снег,
на далонь —
і займе дух
згадка
аб вясне.

Ці то казка, ці то быль:
ты... вішнёвы сад...
Юнай-юная,
нібы
першы снегапад...

* * *

Зіма з тваім імем — надзея —
пакліча,
з сабой павядзе...
Снег выпаў. А заўтра — нядзеля,
мой самы заснежаны дзень.

Я ў поле бялюткае выйду,
да болю
яго палюблю.
І скруху,
і тайную крыўду
ў бяскрайніх снягах утаплю.

Прайдуся па шумнай парошы,
прымушу смяяцца душу.
Спакой твой
нічым не парушу —
спагады ў сяброў папрашу.

## *ПАРАДА*

На самай вялікай вуліцы
самага вялікага горада
незнаёмаму,
                    проста прахожаму,
вы аднойчы скажыце:
«Дзень добры!»
Хай ён уражліва здзівіцца
і, слоў не знайшоўшы ў адказ вам,
вас згубіць у гушчы натоўпу;
пасля, схамянуўшыся,
скажа «дзень добры»,—
ды ўжо каму іншаму...

## *СНІЎСЯ СНЕГ*

*Міласэрнай сястры*
*Тасі Андрасюк*

Было мне душна.
                    Сніўся снег,
ён падаў,
                    лётаў матылькамі.
Рухавы конь перад санямі
па раннім замаразку бег.

Наўзбоч клубілася імгла,
у наст падковы білі гулка.
Дзяўчына ў белым, як снягурка,
у белы дом
мяне ўвяла.

Я ціснуў пальцы ёй крадком:
каб не яна, я заблудзіўся б...
А потым — потым абудзіўся,
быў ясны ранак за акном.

Па гладкай матавай сцяне
нябачных дрэў блукалі цені.
На ложках чыстыя пасцелі
ляжалі,
быццам першы снег.

Сястра прынесла мне пітво —
снягурка ў беласнежнай «робе»...
Дзівіўся я:
каб не хвароба —
якое ўсё-ткі хараство!

* * *

Прамень-усмешка Моны Лізы,
міжзорныя агні ракет...
Ці не таму так свет нам
блізкі,
што ён заўжды — таемны свет?

## *МАЦІ КАСМАНАЎТА*

Шаптала штораз:
«Сыночак...»
І сон не ішоў ніяк.
Скрозь гордасць і ўтому
вочы
ўсю ноч пазіралі, як
зрываліся з неба знічкі
і зыбаўся сіні змрок...
Камусьці — арол касмічны,
а ёй — дык сыночак,
сынок...

* * *

Стала ціха, і месячык глянуў.
Гурбы снегу вятры намялі.
Голлі дрэў — сотні рук веліканаў —
пасвятлелае неба ўзнялі.

Беласнежныя мроі навокал:
фея, церам... Не зніклі б хаця!
Пазіраю ў здзіўленні на вокны:
тэлеўспышкі ў дамах мігацяць.

Ані следу, ані каляіны...
Уваходжу ў пад'езд і званю:
«Ці не можаце... вы... на хвіліну...
выйсці ў казку маю — цішыню?»

## *ЛЮДМІЛА*

Ты такая ж, як і ў казцы,—
уладарная царэўна.
Бласлаўляю тваю рэўнасць,
падначальваюся ласцы.

Абнадзееныя ў трывозе,
устрывожаны ў надзеі:

што, як раптам чарадзеі
цябе ўкрадуць, заварожаць?

Часта мрою шлях Русланаў:
горы вострыя ды кручы...
Дзе і хто
            вады гаючай
мне, бы віцязю, дастане?

І каня, і меч рыхтую,
і гляджу з мальбою ў вочы,
а ты
        ўкрадзенай быць хочаш,
а ты верыш: уратую...

* * *

Сустрэліся, каб толькі павітацца.
«Шкадуеш аб былым?»
«Як ты жывеш?»
І вось — ні размінуцца, ні застацца...
Ты падкажы, як скончыць гэты верш.

* * *

З усіх дарог вітала цягнікі,
праводзіла іх роспачным паглядам
і доўга ўслед глядзела з-пад рукі,
сам-насам з неўтаймоўным лістападам.

...Пусцеў перон,
                    і той жа ветру свіст,
і той жа дождж
                    вярталі той жа вечар...
Тады ішла назад.
                    Трымала ліст,
ён біўся ў пальцах, як агеньчык свечкі.

Яго ні дождж,
                    ні вецер не гасіў,
а нагаворы —
                    па дамах паснулі...
Спыняла тое ж позняе таксі,
удзячная шафёру за паслугі.

Прасіла шчыра, каб машыну гнаў,
спяшалася дамоў,
                    дзе моцна спала
яе любоў,
          туга яе,
                    віна,
і ні аб кім да ранку не пытала.

І тая ж крута лесвіца вяла,
і той жа зыбаўся паўзмрок у зале...
«Дачку займела, хлопца абвяла»,—
пляткарылі ўсё так жа на вакзале.

## *АНТЫМАЛІТВА*

О літасцівы божа!
Калі ты замагільны рай
адкрыў для душ адных святошаў,—
мяне тым раем не карай.

Пазбаў ад таго свету,
прыслухайся да слоў мальбы:
мне прымільгаліся й на гэтым
святошаў посныя ілбы.

* * *

Спашлёмся на турботы
(а іх заўсёды многа)
і адкладзём на потым
сустрэчы і дарогі.

І застанёмся дома
сярод папераў,
                    рэчаў,
а нехта будзе доўга
жыць думкай аб сустрэчы.

Не дзень,
            не два прапусцім,
пакуль адчуем самі,
што ў доме нашым —
                        пуста
і на душы — таксама...

## *ДАКОР*

Плач твой бачыў толькі месяц,
чуў
    вятрыска-лістабой,
ды яны нікому ў свеце
не сказалі пра твой боль.

Не сказалі.
            Але вецер
біўся птушкаю ў акне,
і ўсю ноч глядзеў праз вецце
сумна месяц на мяне.

Ранкам знік ён — плыткі востраў,
долу скінуўшы святло;
вецер быў пякуча-востры,
як паранены аб шкло.

## *ПРА ШЧЫРАСЦЬ*

Не ўбіцца ў прастакі,
але не жыць іначай:
каб плач,
каб смех — такі,
як плач,
як смех — дзіцячы.

## *СКРЫПА́ЧКА*

Дрыготкія рукі твае
ўсплываюць пяшчотай,
і голасам скрыпкі пяе
твая адзінота.

Мелодыі вольны ручэй
ад смутку не збавіць,

ды просінь вільготных вачэй
надзеяю вабіць.

Ты бераг далёкі,
                    другі,
мне — з плынню спрачацца...
Навошта ты песню тугі
даруеш на шчасце?

І пальцы на кожнай струне
то горка,
            то горда
пяшчотай не скрыпцы, а мне
сціскаюць горла.

* * *

Раней, чым ходзікі, прачнуся
і, покуль схлыне змрок густы,
абавязкова навучуся
рабіць усё, як хочаш ты.

Тужыць аб страце буду рэдка,
жыць і разумней, і прасцей.
Не адкажу нікому рэзка
з тваіх дакучлівых гасцей.

І больш таго — пачцівы, строгі —
у дружбе паклянуся ім.
Сябе губляючы, хоць трохі
я навучуся быць тваім.

* * *

*Л. З.*

Шчасця падкова,
сэрца абнова —
выпадкова.
Выпадкова...

Рады. Прымаю.
Абавязаны маю
сустрэчай вясновай.
Выпадковай...

Побач — дыханне.
На развітанне
падае слова.
Выпадкова...

Будзем далёка.
Скоціцца лёгка
слязінка часовая.
Выпадковая...,

## ЗНАЁМЫЯ

Былое, далёкае:
ах, як жывуць!..
Цяпер — пажываюць,
хлеб разам жуюць.

Каханая... Любы...
Забылі даўно.
Заходзяць у краму,
радзей — у кіно.

Трысцен аздабляюць,
прымаюць гасцей.
А дом з кожным разам
пусцей і пусцей.

Зусім патанулі б
у ім галасы,
калі б не ўрываўся
званком у дом сын.

Званочак той кволы,
а ўладна вядзе
з учора
праз сёння —
у заўтрашні дзень.

## *ТЫ*

Палі кветкі.
Прыбяры ў пакоі.
Звары боршч.
Змяні бялізну.
Не траць грошай.
А лепш за ўсё —
па мяне прыедзь.

## *АЛЕГОРЫЯ*

Далдоніў дзяцел на сасне,
ляцелі ўніз кара і трэскі.
Здалёку — майстар на сцяне
вырэзваў залатыя фрэскі.

Нястомны, пушчу дацінаў,
будзіў здагадкамі:
што выйдзе?
Далдоніў дзяцел дацямна,
нарэшце — караеда выдзеўб.

* * *

Голас хмельна-памінальны:
адбылося, адышло...
Гэтак лёгка памяняў ён
срэбра восені на шкло!

І міжволі не паверыш,
што знямоглася рука.
Як тварыў ён!
Птушкі-вершы
проста з сэрца выпускаў.

Быў кумірам. Біў трывогу.
Пуцявіны клаў свае.
Чаму ж болей на дарогу
яму
сілы не стае?

Яму холадна і туга,
як душу ні верадзі.
Незваротна страціў друга,
а ў яго быў друг адзін.

Не з хвальбою, не з маною,
ды пагарды не міне...
Не збавеннем,
а бядою —
тая «ісціна ў віне»!

## *СОЛЬНАЯ СКРЫПКА*

Створана плакаць,
і колькі ні мучце —
смяяцца яе
не навучыце.

Сусед мой купіў
галасістую скрыпку
гасцей весяліць —
і ў доме больш
скрыпу.

Скрыпу — і толькі,
не выдавіў смеху.
З суседа
пасмейцеся,
з плачу — не смейце.

Не раз на вяселлі
яе запрашалі —
гармонік і бубен
яе заглушалі.

Яе паланялі
і бітам,
і джазам.
Смяялася скрыпка
і... плакала разам.

Бо створана плакаць,
і нат на эстрадзе
павінен музыка
адзін з ёю ладзіць.

І выльюцца гукі
ў надзеі і лёсы,
і людзі ўсміхнуцца
скрозь светлыя слёзы.

А смех або воплескі —
сціхне, знямее...
Сольная скрыпка
смяяцца не ўмее.

## *ВОСЕНЬСКАЕ*

Сыпнулася лісцё —
хто страсянуў вас, клёны?
Чыіх слядоў зялёных
ваш лістапад не сцёр?

Здзіўляюся:
калі
прабегла яно — лета?..
Як дробная манета,
звініць апошні ліст.

## *ТУМАН У БРЭСЦЕ*

Туман —
          нібыта ў Лондане,
не прычакаць зары.
Прахожы пройдзе — лорд міне,
схаваны ў каўняры.

Стаў незнаёмы горад нам,
дзе мелі разам жыць...
Туман гусціцца, холадна,
і дожджычак імжыць.

Аўтобус перапоўнены,
гадзіну стой, макрэй.
Але таксіст
          прыпомніў нас:
«Хэло! Сюды!.. О'кэй!»

«А вы ўсё — непаседамі?» —
шафёр націснуў «газ».
Ён добры. Ён не ведае,
што разлучае нас.

Рука ў руцэ... Ты гордая,
твой дом святлом гарыць.
Ну, а ў мяне
          ёсць горад мой,
дзе ёсць мае сябры.

Не ўцешымся маўчанкаю,
бо і яна міне.
Сапраўднай англічанкаю
ты стала для мяне.

Ні ў чым не вінаватая,
дарунку не прасі.
...Пайшла, сваім занятая.
Сядаю я ў таксі.

Туман. Шарэе раніца.
Рабочы гул і трэск.
Гані, таксіст. Пытаецца:
— Табе куды?
— У Брэст!..

* * *

Няхай бушуе лёс, бы акіян,
і раняць сэрцы чэрствыя, як рыфы,—
па хвалях дзён, дзе ўспененыя грывы,
на дабрату
заўжды кірую я.

Мне курс то страчваць, то знаходзіць зноў,
але ў канцы я шлях свой абазначу,

таму што больш,
                    чым сэрцаў-рыфаў,
                                        бачу
гарачых, добрых сэрцаў-маякоў.

* * *

Бавіцца сын мой лістамі,
цягне да клейкіх
                далоні:
гэткія ж, гэткія самыя
ў лісцікаў светла-зялёных.

Даўняй, далёкай часінай
іх адбылася разлука.
Просіцца,
                просіцца сын мой
цёпламу дрэву на рукі.

## ЗМЕСТ

**Каско А.**

К 28 Скразная лінія: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1982.— 62 с.

20 к.

Паэзія Алеся Каско, журналіста з Брэстчыны, стрыманая і шчырая ў сваёй адкрытасці, у сваім даверы да людзей, у вернай любові да краю бацькоў, да Радзімы.

**К** $\frac{\textbf{4702120200—151}}{\textbf{М 302(05)—82}}$ **56—83**

**ББК 84Бел7**

**Бел2**

*Александр Константинович Каско*
*СКВОЗНАЯ ЛИНИЯ*
*Стихи*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар Р. М. Яўсееў
Мастак С. М. Пчалінцаў
Мастацкі рэдактар А. І. Труханава, А. М. Малышава
Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч
Карэктар Т. В. Трубач

ІБ № 1701

Здадзена ў набор 27.07.82. Падп. да друку 20.10.82. АТ 05248. Фармат $60 \times 84^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 1,86. Ум. фарб.-адб. 1,98. Ул.-выд. арк. 1,86. Тыраж 3500 экз. Зак. 2813. Цана 20 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11. Мінскае вытворчае паліграфічнае аб'яднанне імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.